ВЫБАР

ГАЗЕТА ДЭМАКРАТЫЧНЫХ ПЛЫНЯЎ ПРЫДЗВІНСКА- ПРЫДНЯПРОЎСКАГА КРАЮ

№ 10 (16) 20 мая 1992 г. Цана 80 кап.

# ПАВЕДАМЛЕННЕ

### АПАЗІЦЫІ БНФ ПРА ВЫНІКІ 9-й СЕСІІ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА БЕЛАРУСІ

Дзевятая сесія Вярхоўнага Савета Беларусі, што скончыла сваю працу ў канцы красавіка гэтага года, засьведчыла арганізацыйна-палітычнае ўмацаваньне былой камуністычнай наменклатуры. Працягваецца канцэнтрацыя ўлады старой партыйнай бюракратыі вакол Савета Міністраў, зрошчваньне выканаўчай і заканадаўчай структураў. Камуністычна-наменклатурная большасьць, якая прадбачліва назвалася цяпер аб'яднаньнем «Беларусь», можа правесьці зараз у Вярхоўным Савеце практычна любое рашэньне.

Кансалідацыя кансерватыўных антыдэмакратычных сілаў у Вярхоўным Савеце адбылася ў выніку страху перад надыходзячым рэферэндумам. Страх перад рэферэндумам стаў прычынай распаду і фактычнага спыненьня дзейнасьці Дэмакратычнага дэпутацкага клубу. Большая яго частка схілілася да рэанімаванай партгрупы «Беларусь», меншая—падтрымлівае Апазіцыю БНФ. Некаторыя дэпутаты Дэмакратычнага клубу і нават Апазіцыі публічна пацьвердзілі сваю падтрымку кіруючай наменклатуры і здрадзілі ранейшым поглядам і абавязкам. Выявілася тое, што павінна было выявіцца пры рашучых палітычных паваротах. Не кожны можа ахвяравацца сваімі нават маленькімі інтарэсамі дзеля агульнай карысьці, але цяжкой справы.

Старая камуністычная наменклатура, зноў адчуўшы сілу і беспакаранасьць, у Вярхоўным Савеце цынічна ў нейкім бязвыходным азлабленьні поўнасьцю ігнаруе законы і нават бачнасьць законнасьці ў сваіх дзеяньнях; груба парушаецца Канстытуцыя, Часовы рэгламент, законы і пастановы. Усё накіравана на дасягненьне мэты любымі сродкамі—умацаваньне свайго зручнага кіруючага становішча ў грамадзтве і прадаўжэньне свайго існаваньня ў Вярхоўным Савеце.

Рэарганізацыя Вярхоўнага Савета поўнасьцю правалена кансерватыўнай большасьцю. Адкінуты праект закона аб барацьбе з карупцыяй, прапанаваны Апазіцыяй БНФ. Карумпаванай наменклатуры і яе памагатым не патрэбны такі закон. Не прыняты закон пра прыватызацыю. (Гэта значыць, што «прыхтватызацыя» прадоўжыцца—хапай, хто можа). Закон аб прыватызацыі жыльля дэпутаты большыні прынялі ў сваіх інтарэсах з такімі палажэньнямі, якія выклічуць сацыяльныя канфлікты.

Аналагічна праводзіцца і кадравая палітыка—прызначэньні толькі з свайго асяродзьдзя. З грубейшымі парушэньнямі Канстытуцыі і закона аб выбарах выбрана пяць наменклатурных асобаў (у асноўным былых партыйных работнікаў) у Цэнтральную камісію па выбарах (рэферэндуму). Кантрольную палату і Міністэрства абароны ўзначалілі таксама «свае» людзі. Прытым Вярхоўны Савет не захацеў прыняць прысягу на вернасьць дзяржаве і народу Беларусі ад толькі што выбранага Міністра абароны. Хіба гэта не сьведчыць пра антынароднасьць «народных абраньнікаў»? Факт дзіўны і неверагодны для нармальнага парламента.

На 9-й Сесіі стала добра відаць палітычнае банкруцтва С. Шушкевіча. Спраўджваецца вопыт, што кожны, хто лавіруе, можа зламаць у тупік, нават тады, калі заўсёды падтрымлівае большыню. С. Шушкевіч, здрадзіўшы ў каторы раз сваім ранейшым прыхільнасьцям, цяпер поўнасьцю ў руках наменклатуры. Спробы ў гэтай сітуацыі выдаваць іхнія інтарэсы за свае перакананьні выглядаюць парадыйна і не выклікаюць даверу нават у наменклатуршчыкаў.

Адбываецца ціхае падграбаньне друку і ўсіх сродкаў масавай інфармацыі пад дзяржаўныя структуры. Як вынік у прэсе адчуваецца адыход ад дэмакратычных дэкларацыяў, выяўляецца ўсё больш разьлік на саўмінаўскія падачкі, арыентацыя рэдактараў на кіруючую наменклатуру.

Дзевятая Сесія і падзеі вакол яе яскрава паказалі, што былая камуністычная алігархія імкнецца да свайго ранейшага стылю кіраўніцтва не толькі ў эканоміцы, але і палітыцы. Антыкультурная, антыбеларуская накіраванасьць гэтай манкуртысцкай палітыкі не выклікае сумненьняў. Адсутнасьць канцэпцыі дзяржаўнага разьвіцьця Беларусі—гэта вынік не толькі нізкага ўзроўню і няздольнасьці думаць. Асноўны клопат старой дзяржаўнай бюракратыі не дзяржава, а абагачэньне за кошт дзяржавы, уласны інтарэс, пераразьмеркаваньне дзяржаўнай маёмасьці. Ствараецца толькі імітацыя дзяржаўнай дзейнасьці. Але, калі прыходзіць, скажам, у сталіцу афіцыйныя дзяржаўныя сьвяты Рэспублікі Беларусь 1 і 9 мая, то вы не ўбачыце ў афармленьні вуліцаў Менска ніводнага дзяржаўнага сьцяга, ніводнага герба, ніводнага дзяржаўнага сімвала. Паўсюдна вывешаны сьцягі чужой неіснуючай імперыі. Гэта гаворыць шмат пра што. І пра тое, хто ва ўладзе на Беларусі, і як яны адносяцца да дзяржавы, якой кіруюць, да ўласных законаў, да народа і ўвогуле, што ад такой улады можна чакаць.

Дэпутаты Апазіцыі БНФ падрабязна прааналізавалі ход і вынікі 9-й Сесіі Вярхоўнага Савета і прышлі да высновы, што ў такім становішчы Апазіцыя Народнага Фронту павінна зьвярнуць увагу не на парламенцкую, а на паралельную з Вярхоўным Саветам працу, на стварэньне паралельных структураў, на класічнае выяўленьне апазіцыйнай дзейнасьці, дзе крытыка мае прыярытэт у парламенце, а праграмная законатворчасьць у паралельных існуючаму ўраду структурах.

Рашэньне аб правядзеньні ўсебеларускага рэферэндуму пра роспуск Вярхоўнага Савета і новыя выбары ўжо прынята і рэферэндум адбудзецца, нягледзячы ні на якія антызаконныя хітрыкі кіруючай наменклатуры. Трэба не пакінуць ім ніводнага шансу панаваць над нашай краінай.

**Дэпутаты Апазіцыі БНФ у Вярхоўным Савеце Беларусі.**

Абмеркавана і прынята на паседжаньні Апазіцыі 11 травеня 1992 г.

# БУНТ ИЗ-ЗА ПРИКАЗА

В прошедший четверг ровно в 15-30 студенты первых трех курсов ветеринарного института собрались в одной из аудиторий главного учебного корпуса и потребовали разъяснений от ректора по поводу изданного им накануне приказа, где в нескольких пунктах канцелярским языком изложена идея платных отработок студентами пропущенных занятий без уважительных причин.

Самого приказа, из-за которого разгорелся весь сырбор, студенты в глаза не видели. Документ готовился келейно, не был вывешен на доске объявлений. А отсутствие информации всегда порождает слухи. Например, чего стоит утверждение, что приказ имеет обратную силу и распространяется на пропущенные занятия без уважительных причин с начала учебного года. Это и вызвало взрыв негодования в студенческой среде.

На самом же деле приказ, подписанный 8 мая, вступает в силу с 11 мая с. г. За каждое занятие, проведенное профессором и пропущенное студентом без уважительной причины, студент уплачивает в бухгалтерию института 140 рублей, доценту—120 руб., ассистенту—90 руб. Кроме этого по пропущенной теме готовится реферат.

На встречу со студентами пришли проректор по учебной работе А. Могиленко и заместитель декана ветеринарного факультета И. Анисин. Вначале встреча протекала сложно. Обтекаемые ответы на конкретно поставленные ребятами вопросы. Студентам давали понять, что только они знали свое место. Поэтому в зале раздавались голоса: «Не давите на нас!». Это далеко были не те «застойные» мальчики и девочки, испуганно склонявшие головы. Должностные лица это постепенно поняли и дальше разговор пошел на равных.

Приводились аргументы в пользу этого приказа. Мера, дескать, вынужденная—должна заставить студентов посещать занятия. Как только посещаемость улучшится, эта мера сама собою отпадет.

В конце встречи был найден приемлемый компромисс: приказ будет подкорректирован и вывешен для всеобщего обозрения.

**Б. ХАМАЙДА.**

## Будет столовая памятником

**Эти люди разложили свой нехитрый обед на лужайке напротив здания, на котором написано «Столовая».**

**Ситуация понятна: теперь редко кто себе позволяет покушать в столовой и, тем более, в ресторане. Цены больно кусаются! Общественное питание таким образом бесперспективно.**

**А что же взамен! В развитых странах на каждом шагу можно вкусно поесть. Там множество уютных больших и малых ресторанчиков, кафе и т. п. Это общеизвестно. Зато, например, в Витебске ни одного шага не сделано, чтобы пойти на приватизацию учреждений нынешнего общепита.**

**Надо создать нормальные условия для такой приватизации: доступные цены для выкупа зданий, помещений, резко уменьшить для владельцев налоги и т. д. Но кто пойдет на такую реформу при нынешнем Верховном Совете!**




## ПУЛЯ ПОПАЛА В ДЕВУШКУ

Когда этот номер был уже сверстан, в редакцию позвонил житель Лиозненского района. Он сообщил, что 16 мая ночью работник милиции подстрелил девушку, которая находится теперь в больнице в тяжелом состоянии.

Как пояснили нашему корреспонденту в УВД облисполкома, действительно, стрелял инспектор по делам несовершеннолетних Лукьянец. Работник милиции пытался остановить трактор МТЗ-80 вначале световым жезлом, а затем предупредительным выстрелом в воздух. Водитель не подчинился. Дальше последовали выстрелы по колесам. В кабине трактора находились парень с девушкой. Девушка была ранена выстрелом. Оба оказались в нетрезвом состоянии. Потерпевшей сделана операция.

Итак, это информация УВД. Редакция намерена сообщить читателям об итогах предстоящего расследования этого случая.

**П. РЕБРОВ.**



# ИМЯ ИМ—ЛЕГИОН!

Несколько дней назад снова были подняты цены на продукты и товары. Мера, казалось бы, необходимая в условиях гиперинфляции. Но при нынешнем развале промышленности и сельского хозяйства это беспредел, это разбойничья акция государственных монополистов.

Взвинчивание цен при отсутствии широкого массового рынка, повсеместного развития частной собственности приведет к умерщвлению экономики, вызовет массовую безработицу и обнищание простого люда.

Кто же мешает всплеску рыночных отношений, созданию истинно живой экономики на основе частной собственности? Имя им—легион! Это прежде всего бездарная номенклатура, заседающая в нынешнем Верховном Совете Республики Беларусь, это чиновники правительства нашей страны, которое не в состоянии проводить кардинальные реформы.

Перечень состава легиона продолжать нет смысла. Выход из тяжелого кризиса только в замене нынешнего Верховного Совета и правительства. Это должно решаться путем референдума.

Народ может спасти себя сам, избрав в органы власти высокообразованных и мыслящих людей—представителей демократических партий.

Не надо только поддаваться на лживую говорильню о том, что у БНФ, Грамады и других движений и партий нет своих программ выхода из кризиса. Все есть, кроме одного—возможности творить правовые нормы, истинную цивилизованную законность. Почему? В нашей Республике по-прежнему на всех уровнях у власти номенклатура, которая заинтересована в отсутствии демократического закона о выборах, в подавлении демократии.

**П. ЛЕМЕШЕВ.**

г. Витебск.

# А НА ДРУЦІ ГАСПАДАРЫЦЬ ЦІШЫНЯ

Дзесьці ў канцы мінулага года ў мясцовай газеце горада Талачына было змешчана кароткае інтэрв'ю з начальнікам раённай інспекцыі па экалогіі Л. С. Міронавым, які тлумачыў прычыну спуску сажалак на рацэ Друць вялікай забруджанасцю вады, бо сажалкі не ачышчаліся ўжо многа гадоў. Павінна ж гэта рабіцца цераз кожныя 4-5 гадоў. А спусцілі ваду з сажалак на зіму таму, тлумачыў Леанід Сцяпанавіч, што чысціць іх лепей у зімовы час, калі зямля добра прамёрзне, ды і тэхніка не так занята.

Зразумела, з якой радасцю ўспрынялі гэтую вестку талачынцы, як дарослыя, так і дзеці. Аматары рыбнай лоўлі ўяўлялі ў думках вялізных шчупакоў, карасёў і іншых рыб, якіх яны будуць лавіць у чысцюткай рачной вадзе, гаспадыні бачылі сябе на Друці за паласканнем бялізны, ну, а падлеткі—плянэхаліся ў ёй пад спякотнымі сонечнымі промнямі.

Але прайшоў снежань, мінуў студзень, наступіў люты—апошні зімовы месяц, а на Друці паўнаўладна гаспадарыць цішыня. Яе, час ад часу, парушаў толькі рокат магутнага экскаватара, які ўрыўкамі капаў траншэю непадалёк ад адной з сажалак. Калі ў падрыхтаваную ўжо траншэю паклалі трубы, прычым, дакладна такія ж, як клалі раней у райцэнтры пад прыродны газ, а канец траншэі стаў усё больш упэўна трымаць кірунак на «Панскую» вуліцу, талачынцы зразумелі, што іх у каторы ўжо раз зноў абдурылі. Ніхто чысціць дно Друці і сажалак не збіраўся, а спусцілі з іх ваду толькі таму, што на адным участку трубы павінны легчы на дно Друці, каб затым трапіць на так званую ў народзе «Панскую» вуліцу, дзе жывуць амаль все кіраўнікі Талачынскага раёна, у тым ліку і былы першы сакратар райкома КПБ, цяпер старшыня раённага Савета народных дэпутатаў І. С. Шчурок. Проста так трубы ў ваду не кінеш, іх трэба агледзець, падрыхтаваць пад вялікі ціск. Вось і ўся асноўная прычына спуску вады.

Але давайце ўявім сабе, што на Друці ў рэшце рэшт закіпіць работа па ачыстцы дна. Але калі?

Зразумела абурэнне жыхароў вуліцы імя Валадарскага райцэнтра, якім павінны былі падвесці прыродны газ яшчэ летась, аднак «бацькі» горада спасылаюцца на адсутнасць труб.

А для «Панскай» вуліцы трубы, выходзіць, знайшліся ў патрэбнай колькасці.

**А. СЯРГЕЕЎ.**




*Прапанова чытачоў*

# ПРЫГАВАРЫЦЬ ДА КАМУНІЗМУ

Мне вельмі спадабалася прапанова БНФ «Адраджэньне» і НДПБ у газеце «Знамя Юнацтва» аб правядзенні трыбунала над камуністычнымі ідэалогіяй і партыяй.

З невялікай часцінкай гумару хачу сказаць наступнае. Тое, што «камунізм» асудзіць час, зразумела ўсім. Але ж трэба неяк і пакараць сучасных «так званых» камуністаў за іх злачынствы.

Вось я і прапаную ў век дэмакратыі і плюралізму прыгаварыць іх да... камунізму! Хопіць ім баламуціць працоўных. Няхай будуюць свой слаўты рай, але ж у асобна адведзенай зоне, ну, напрыклад, дыяметрам 30 км, ці, калі іх будзе многа, некалькі большай. Зямлі ў нас, слава богу, для камуністаў хопіць.

Каб звесці народныя затраты да мінімуму, прапаную на бліжэйшым рэферэндуме выявіць усіх прыхільнікаў камуністычнага выбару.

Трэба абнесці гэта дзіўнае месца кітайскай сцяной, і няхай яны спакойна будуюць! Згодзен пералічыць на рахунак камуністычнай вобласці тысячу рублёў для пабудовы сценкі.

Адно шкада, што сярод прыхільнікаў камвыбару будзе мала людзей з мазалямі на руках, а з мазалямі на языках камунізм будаваць не вельмі зручна. Але ж нам спяшацца няма куды, мы пачакаем.

**Анатоль К.**

г. Віцебск.

# *Анонимка с «высоты»*

**Уважаемый читатель! Мы не пожалели места для публикации этой анонимки. Для чего! Чтобы подчеркнуть: в нашей стране учитель поставлен на такую «высоту», что даже сам себя не помнит от страха. Наставник детворы, как заяц, по-прежнему боится директора школы, заведующего районо и т. д. Он напуган настолько, что старательно выводит безобидное письмо в редакцию... печатными буквами.**

**Дорогие учителя! Отчего же вы трясетесь! Райкомы партии канули в лету. Уже всем стала очевидной нелепость существования отделов народного образования. Их тоже скоро не станет. Будьте же хозяевами своих школ!**

**Извините за прямоту, дорогие наши наставники, наша реальная движущая сила общества! И вам тоже пора людьми зваться, а не зайцами. От того, каковы вы сейчас, зависит наше будущее! Да и настоящее тоже.**

**С. МАЖОРИК.**

г. Витебск
ул. Гоголя, 17
газета „Выбор"

РЕДАКТОРУ

ИНФОРМАЦИЯ ДЛЯ КОРЕСПОНДЕНТА, ПИСАВШЕГО О 9 ШКОЛЕ:

В ДЕКАБРЕ 1991 ГОДА ИЗ РОНО ПОСТУПИЛО СООБЩЕНИЕ: УЧИТЕЛЯ, НЕ СОГЛАСНЫЕ С АТТЕСТАЦИЕЙ, МОГУТ ПОДАТЬ ЗАЯВЛЕНИЯ ДО 20 ФЕВРАЛЯ. В 9 ШКОЛЕ ОБ ЭТОМ УЗНАЛИ ТОЛЬКО ИЗБРАННЫЕ. ОСТАЛЬНЫМ ОБ ЭТОМ ДИРЕКТОР НЕ СООБЩИЛА. НАПИСАВШИМ ЗАЯВЛЕНИЯ, АВТОМАТИЧЕСКИ ПОВЫСИЛИ КАТЕГОРИЮ. ВОЗМУЩЁННЫЕ УЧИТЕЛЯ НАПИСАЛИ ЖАЛОБУ В ОБЛОНО. ГИРСА ДАЛ УКАЗАНИЕ: ПРОВЕСТИ ВНЕОЧЕРЕДНУЮ АТТЕСТАЦИЮ В 9 ШКОЛЕ. ТЕПЕРЬ УЖЕ ВСЕ УЧИТЕЛЯ 9 ШКОЛЫ НАПИСАЛИ ЗАЯВЛЕНИЯ И КАЖДЫЙ АВТОМАТИЧЕСКИ ПОЛУЧИЛ

ТО, ЧТО ПРОСИЛ, НЕЗАВИСИМО ОТ ТОГО ХОРОШИЙ ЛИ ОН УЧИТЕЛЬ ИЛИ ПЛОХОЙ

ПОЧЕМУ БЫ И В ДРУГИХ ШКОЛАХ ГОРОДА НЕ ПРОВЕСТИ ТАКУЮ "АТТЕСТАЦИЮ"

# АДЗІН ЖЫЎ, У ЛАПЦЯХ ХАДЗІЎ, ШТО РАБІЦЬ, ЯК АДЫЙДУЦЬ ЯНЫ?..

*(ЗАМАЛЁЎКІ З НАТУРЫ)*

*Страшэннай хваробай*
*зрабілася звычка,*
*Ратунку няма і ці будзе*
*пасля.*
*Зняможана, з вёскаю-*
*алкагалічкай,*
*Перагар самагонны*
*выдыхае зямля.*

**(Яўгенія Мальчэўская).**



## *Позняя радасць*

Не ведаю, чаму мой калгас называецца «Палацам Працы». Для працы больш падыходзіць майстэрня. Але палац дык палац. Працавалі ў ім ад цямна да цямна. Дзяцей расцілі на працадні, па 5—6 чалавек у кожнай хаце. А сёння ў маёй вёсцы, адным з найбольшых пакояў гэтага палаца, пуста. Вось і старая Аксэндзіха, за сто ёй ужо, праводзіла трэцяга сына на вечны адпачынак. Перахрысціла ўслед труну ды і пайшла да хаты, бо да могілак, за кіламетр, не дайсці. Спынілася каля высахлага паркану, з алешніка, шчыліну загарадзіла непаслухмянымі пальцамі. Самой бы ў магілку за сынам, ды пакінуў яшчэ Бог з зямелькай ля хаты, не адпускае яе.

А да нас сусед Лукаш забег. Адзіны з мужыкоў. Самы малады на пасёлку, толькі гады чатыры як на пенсію пайшоў. Усхвалявана не то запытаў, не то сцвердзіў: «Маня, (да маці) ты чула, гавораць, зямлю будуць даваць!»

—Ды мне ўжо два метры хопіць,—засумавала тая, а потым без усялякага пераходу зашкадавала адчайна.—Каб жа раней, хоць гадкоў на дзесяць, ці, каб пасля вайны адразу. Усё роўна на сябе ўсё ў калгасе цягалі... Была б зямля раней, і дзеці не параз'язджаліся б. Ды хоць сотак колькі ўзяць нада.

—Маня,—працягваў зноў сусед,—а ты пра Вольгачку чула? Гавораць, ноччу з хлева гной павывезла на той участак, што Алька Васюціна ў брыгадзіра хацела прасіць. Вот табе і адна, без хадзяіна.

Увалокся ў хату брат з сябруком. Прапітыя, непрычасаныя, абоім за 35, нежанатыя. Пахмыкалі, але пра што гутарка, дапялі: «На фіга нам ваша зямля, мяшок бульбы пасадзіце і хопіць».

...Горка, балюча, пякельна стала на душы. Выйшла за гароды, да кустоў арэшнікавых. Свежыя кучкі гною ўсцілалі зямлю, дзе мінулым годам быў калгасны ячмень. Жаночая постаць усадзіла ў адну з куч вілы, але, не здолеўшы ўзняць пласт, адарвалася і ўпала. Вылецеў мацюк, звычны і нязлослівы. Я пазнала Вольгачку. Мусіць, знясілела за ноч, калі на калёсках вывозіла гной, а цяпер спяшыла растрэсці яго на аблюбаваных сотках. Змахваючы пот, яна з трывожнай любоўю паглядзела на ўсцеленую зямлю. «Нікуды не падзенуцца, не згоняць»,—думала.

Міжволі ўспомніўся мележаўскі Васіль Дзятлік. Якой жа надзеяй ён жыў! Вольгачка, пэўна, таксама. Сыны ж на выхадныя пад'едуць...

## *Першыя людзі*

Першыя людзі ў маёй вёсцы—сябры майго маленства. Ім цяпер з плюсам ці мінусам па 40 гадоў. Аж дзесяць мальцаў—мужчын. Пацягаўшыся па белым свеце, там-сям пасядзеўшы ў турмах, прыбі-

# На прицепе без трактора

Редактору газеты «Выбор» от руководителя крестьянского хозяйства гр. Семашко Александра Владимировича, проживающего в д. Клевцы Лиозненского р-на, Витебской области.

**ЗАЯВЛЕНИЕ**

Я, Семашко А. В., имея 5 курсов Московского института инженеров сельского хозяйства, но желая организовать свое дело, приехал с Гродненской области, где работал инженером в колхозе. С июня 1989 г. сам, без посторонней помощи построил мини-ферму, но тогда не было закона о земле. В октябре месяце правительство Беларуси приняло закон о развитии фермерского и крестьянского хозяйства.

После этих событий состоялся устный разговор с председателем колхоза «Новый труд» тов. Виноградовым Леонидом Ивановичем, где находится эта ферма. Было достигнуто устное согласие: если ферма будет продана мне в личное пользование, то на ее базе я организую крестьянское хозяйство, где буду работать на себя.

15 октября 1991 года правление колхоза решило продать мне ферму и нутрий за фактические затраты, которые колхоз понес за строительство. Со справкой из бухгалтерии я пошел в земельный отдел района, где мне был выделен участок земли в непосредственной близости от мини-фермы. В ноябре райисполком утвердил о выделении участка, а в январе 1992 года на руки получил Государственный акт о владении 8 га земли.

Согласно справкам и документам из бухгалтерии колхоза я через Агропромбанк г. Лиозно произвел безналичный расчет за все, что я пожелал купить в колхозе.

А сейчас—посевная. Я взял за плату у населения бычков, закупил в районе семена, имею сто тысяч кредита в банке. 18 апреля 1992 года председатель колхоза отказался нотариально заверить куплю-продажу фермы, а через несколько минут с отборной бранью и с поднятым над головой стулом выгнал меня из правления колхоза, публично (было на улице около 15—18 человек) изгнал меня с колхозной квартиры, где живут жена и трое детей, жена в декретном отпуске. Сказал, чтобы я убирался не только из тех сараев, что своим потом были построены, но чтобы выметался совсем из деревни.

Итог: фермерское хозяйство разгромил в десять минут, а практически такие председатели-князьки губят все, что делает правительство в земельной реформе, все хорошее и передовое. Он боится, что я покажу ему пример и людям, что можно, работая честно на земле, прокормить и одеть себя.

Очень теплое к себе отношение чувствую со стороны местных жителей и со стороны района.

А теперь я стою совершенно на распутье, что делать???

**А. СЕМАШКО.**

18.IV-92 г.

От корреспондентов

В беседе с журналистами работники Лиозненского райисполкома пояснили, что районная власть в меру своих сил и возможностей помогает А. Семашко встать на ноги.

Своим решением № 256 от 17.12.91 г. исполком предоставил фермеру земельный участок площадью 9,2 га и зарегистрировал его крестьянское хозяйство. Помог с кредитами.

И, действительно, фермер к исполкому претензий не имеет. А каково отношение к нему колхозных чиновников?

Мы выезжали в деревню Клевцы Стасевского сельсовета Лиозненского района. К сожалению, самого фермера не застали, разговаривали с его женой. Семья продолжает жить в колхозном доме, так что факт выселения не подтверждается. Если и была угроза со стороны председателя, то она не перешла в действие. Время другое. Также сейчас трудно доказать нецензурную брань и факт поднятия стула над головой фермера.

А пока что семье фермера на территории колхоза «Новый труд» весьма неуютно. Его жена рассказывает, что когда она пришла в контору за получением пособия на детей, конторские ей посоветовали по примеру мужа тоже в фермеры податься, а не сидеть на шее у колхоза.

Да, было около сотни нутрий. За животными нужен был ветеринарный уход. Когда муж обращался за помощью (в колхозе есть ветврач), ее вовремя не оказали. Большинство животных от болезней подохло. Жена приводила и другие примеры безразличного отношения к фермерским проблемам.

Выкупленные хозяйственные строения муж никак не может оформить в свою собственность (часть построек возведены лично им). Была подготовлена справка: баланс остаточной стоимости зверофермы, принадлежащей колхозу «Новый труд». В документе написано, что правление колхоза продает звероферму гр. Семашко А. В., а именно: 3 (три) сарая 6×12 каждый, подсобное помещение 3×4 общей стоимостью 44376 рублей.

Под этим документом председатель колхоза расписался, однако, печать отсутствует. А фермер требовал, чтобы ее поставили. На этой почве и возник скандал, о котором рассказывает письмо в редакцию.

А. Семашко достал прицеп, а трактора нет и не предвидится. Хоть самому впрягайся. Придется просить колхозного тракториста помогать за бутылку. Но на бутылках много не нахозяйствуешь. В трубу вылетишь. Вот такие дела крестьянина, который захотел быть свободным.

Трудно жить и работать в такой обстановке—подвела итог своим рассуждениям Екатерина Леонидовна, супруга фермера.

**Рядом с ней стояли трое детей (один другого меньше) и с большим любопытством разглядывали журналистов. Кстати, женщина ожидает четвертого ребенка.**

**В исполкоме нам рассказали, что председатель колхоза «Новый труд» Виноградов Леонид Иванович, деликатно выражаясь, не поддерживает фермера Семашко. В самом хозяйстве земля используется неэффективно, надои молока самые низкие в районе, хозяйство закредитованное. А тут человек, кстати, единственный в колхозе, решился хозяйствовать на земле, набрался смелости вырваться из числа «крепостных» бесславно развалившего колхозного строя.**

**Увы, многие далеки от такой мысли. В колхозе как-никак легче разделить общую безответственность за низкие урожаи, удои и привесы. Так приспособились крестьяне жить без своей земли (в полном смысле этого слова), жить без своего коня, трактора, комбайна в коллективном хозяйстве, подпитываемого государством. Идут дотации колхозам как в прорву.**

**И вместо того, чтобы поддержать Александра Владимировича, поклониться ему за светлый решительный рывок в естественную для всего цивилизованного мира крестьянскую жизнь, его односельчане пассивничают. А зря! Пройдет время и нынешние колхозники уразумеют, что свою судьбу они должны решать сами, а не ждать милости от обанкротившейся социалистической системы.**

